

*магілёўскі*

# Выбар

**№ 1**
*Люты 2012 г.*

***Абласная Дэмакратычная Трыбуна***

## Дзялёжка «беларускага пірага»



***Рыгор Кастусёў***

*Рыгор Кастусёў. Намеснік старшыні Партыі БНФ, экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Цяхцін Бялыніцкага раёна. У 1982 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спэцыяльнасці інжынер-механік. Служыў у Савецкай арміі, працаваў галоўным інжынерам, дырэктарам саўгаса, дырэктарам Шклоўскага раённага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У 2001 годзе вымушаны быў сысці з пасады пад ціскам уладаў з-за працы ў камандах кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў. Быў дырэктарам сумеснага беларуска-ўкраінскага прадпрыемства. Тройчы абіраўся дэпутатам мясцовых саветаў. Аўтар праграмы развіцця і рэфармавання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь на 2010-2015 гады, прапанаванай Партыяй БНФ.*

5 студзеня 2012 года Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ № 7 “Аб некаторых пытаннях пераўтварэння рэспубліканскіх унітарных прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы”. Дадзены дакумент, па сцвярджэнню прэс-службы прэзідэнта, скіраваны на прадухіленне разгрупавання акцый адкрытых акцыянерных таварыстваў сярод мінарытарных акцыянераў і прыцягненне інвестыцый у ствараемыя адкрытыя акцыянерныя таварыствы. План пераўтварэння такіх рэспубліканскіх унітарных прадпрыемстваў у ААТ на 2011-2013 гады быў зацверджаны пастановай Савета міністраў № 348 ад 21 сакавіка 2011 года.

Падпісаннем указа № 7 А.Лукашэнка практычна адкрывае новы этап — этап “прыхватызацыі” яшчэ не падзеленага да гэтай пары “беларускага пірага” пад выглядам плана прыватызацыі на 2011-2013 гады. Кіраўніцтва краіны проста растаптала правы беларускага народу на права валодання доляй прадпрыемства.

На продаж выстаўляюцца не стратныя прадпрыемствы, а паспяхова дзеючыя, эканамічна значымыя для нашай краіны, з абмежаваннем права калектываў гэтых прадпрыемстваў на ўдзел у працэсе прыватызацыі. Адназначна, можна смела казаць, што на 54 прадпрыемствы, унесеныя ў спіс па абмежаванню льготнага продажу акцый членам працоўнага калектыву, ужо сёння вызначаны пакупнікі.

Пад выглядам “благавіднага паступка”, “з мэтай прыцягнення буйных інвестыцый, уваходжання беларускіх прадпрыемстваў у карпаратыўныя структуры” цынічна, нахабным спосабам адкатваецца схема дзеляжа ўласнасці беларускага народу.

З прыняццём указа № 7 становяцца зразумелымі дзеянні беларускіх уладаў і ў сельскай гаспадарцы апошнія паўтара дзесятка гадоў.

У апошнія 15 год пад выглядам пераўтварэння калгасаў і саўгасаў у больш эфектыўныя арганізацыйныя формы беларускія ўлады актыўна вядуць працу па аб'яднанню па некалькі былых гаспадарак у адну і пераводу іх у акцыянерныя таварыствы. Падобныя дзеянні беларускіх уладаў прыпадносяцца грамадзянам, пражываючым на тэрыторыі гаспадарак, як клопат аб іх дабрабыце.

***(Пачатак. Закан. на стар. 2)***

## Могилёв останется без строителей?

Около четырех тысяч специалистов ушли из сферы строительства Могилева

Отток специалистов из сферы строительства в Могилеве за 2011 год составил 3780 человек, об этом на заседании городского исполнительного комитета сообщил директор МГУП «Управление капитального строительства» Геннадий Денгалев.

Этот фактор вкупе с сокращением финансирования и ростом цен на строительные материалы значительно снизил объемы введенного в эксплуатацию жилья, ухудшил его качество. Так, за счет всех источников финансирования введено всего 167,5 тыс. м. кв., или 57,7% при задании 290.

Помимо этого, не был обеспечен ввод многоквартирных жилых домов высокой степени готовности, среди которых — 95-квартирный жилой дом № 1 по ул. Чехова, 180-квартирный жилой дом по ул. Ямницкой, 80-квартирный дом по ул. Кутепова. Вместе с тем сдан детский сад по ул. Криулина, произведена реконструкция здания казарм по ул. Челюскинцев и т.д.

В 2012 году запланировано ввести всего 130 тыс. м. кв. Для сравнения: в 2009 году было введено 209 тыс. м. кв., в 2010 году — 211 тыс. м. кв. Средняя стоимость жилья по городу в 2011 году возросла с 2-2,5 млн бел. руб. за 1 метр квадратный до 4-4,5 мл.



# Дзялёжка «беларускага пірага»




***(Заканчэнне. Пач. на стар. 1)***

Аб’яднанне некалькіх гаспадарак у адну дазваляе чыноўнікам дасягнуць толькі аднаго “эканамічнага”паказчыка — змяншэння колькасці стратных прадпрыемстваў у адпаведным рэгіёне. Але ж з далучэннем гаспадаркі да іншай у далучанай адразу ж пачынае заціхаць і жыццё. Такія вёскі падобным чынам прызначаны да вымірання. Людзі, якія раней там жылі і працавалі, пачынаюць яе пакідаць, так і не стаўшы гаспадарамі сваёй зямлі, зямлі, якая была ў свой час уласнасцю іх продкаў.

А што ж адбываецца з зямлёй?

А зямля нярэдка праз змену формы ўласнасці і аб’яднанне пераходзіць у распараджэнне ўтворанага акцыянернага таварыства, якое надалей далучаецца да прамысловага прадпрыемства або ўстановы ў выглядзе ААТ. І не заўсёды вядома, каму і колькі акцыяў гэтага прадпрыемства прыналежаць. Ёсць, відаць, далучаныя землі і ў прадпрыемстваў са спісу “54-х”. Так што новыя ўладальнікі дадзеных прадпрыемстваў у хуткім часе могуць стаць і гаспадарамі значных плошчаў сельскагаспадарчых угоддзяў.

Працаўнікоў калгасаў, як калісьці іх дзядоў і прадзедаў рабавалі бальшавікі праз прымусовае ўступленне ў калгас, зноўку абрабавалі. Іх калектыўная маёмасць проста безсаромна ў іх рэквізуецца. Але гэта ўжо адбываецца ў прыхаванай форме і нават звычайна праводзіцца праз галасаванне, якое нярэдка адбываецца пад прымусам у прысутнасці супрацоўнікаў міліцыі. Запалоханым калгаснікам нічога не застаецца, як зноўку аднагалосна падняць рукі, падобна на тое, як гэта рабілі іх дзяды і прадзеды ў 20-я і 30-я гады мінулага стагоддзя.

Як, напрыклад, гэта адбылося ў 2010 годзе з былым калгасам “1-е Мая” Шклоўскага раёну. Калгасам, які за шматгадовую гіторыю свайго існавання ніколі не быў у пазыках перад дзяржавай. Калгаснікаў “угаварылі” пагадзіцца на далучэнне да ААТ “Александрыйскае”.

Першае, што зрабілі новыя гаспадары, — гэта тое, што з былой гаспадаркі адразу ж пасля далучэння былі вывезены сотні галоў буйной рагатай жывелы, кармы, зерне, тэхніка... Вытворчыя будынкі былі разбураны. Людзі засталіся без працы ў сваёй роднай весцы і вымушаны з’язджаць адтуль або ездзіць на працу за дзесяткі кіламетраў. Ну, а “Александрыйскае” пакрыла гэтым самым усе свае хібы і недахопы перад праверкай Камітэта дзяржкантролю.

Яшчэ “мудрэй” улады паступілі ў Краснапольскім раёне Магілёўскай вобласці. Там за кошт раснастайных пеpатурбацый усе былыя калгасы, саўгасы і іншыя сельгаспрадпрыемствы ў 2008-2009 гадах былі аб’яднаны ў адно — КУСП “Краснапольскі”. Карацей кажучы — раён ператварыўся ў адну вялікую гаспадарку. Але ж, што цікава, апарат чыноўнікаў раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі быў захаваны цалкам. Падобнае аб’яднане прывяло да пагаршэння эканамічных паказчыкаў раёна. Толькі за 2009 год страты ад зніжэння якасці прадаваемага дзяржаве малака пераўзышлі паказчык гадавога фонду заработнай платы прадпрыемства... На гэтым эксперыменты ў Краснапольскім раёне не закончыліся. Працаўнікоў сяла чакаюць новыя “рэформы”. Толькі не зразумела — на чыю карысць?..

Сама сабой напрошваецца выснова — на Беларусі ў прыхаванай форме распачынаецца працэс прыватызацыі зямлі і стварэнне новага класа землеўладальнікаў — “латыфундыстаў”. Пры гэтым грамадзянам краіны навязваецца меркаванне, што зямля на вёсцы нікому непатрэбная, на ёй ніхто не хоча працаваць...

Змена дачыненняў уласнасці на зямлю павінна праходзіць праз пераўтварэнні цяперашніх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў (былых калгасаў, саўгасаў) з адначасовым увядзеннем у краіне прыватнай уласнасці на зямлю ў першую чаргу для тых, хто на ёй жыве і працуе. Праз стварэнне дзяржаўнага рэзервовага зямельнага фонду, зямельнымі ўчасткамі павінны забяспечвацца прыватныя сялянскія гаспадаркі.

Партыя БНФ заўсёды адстойвала і адстойвае ідэю стварэння ў Беларусі канкурэнтназдольнай сельскай, рыбнай і лясной гаспадаркі, каб не толькі забяспечыць нашае насельніцтва ў дастатковай колькасці экалагічна чыстымі прадуктамі харчавання, але і стварыць неабходны экспартны патэнцыял. Ад гэтага залежыць лёс і дабрабыт народа, палітычная стабільнасць у грамадстве. Дзеля дасягнення гэтай мэты неабходна глыбокая аграрная рэформа, у тым ліку і зямельная рэформа, з увядзеннем прыватнай уласнасці на зямлю.

Асноўная мэта зямельнай рэформы — забяспячэнне рацыянальнага выкарыстання галоўнага нацыянальнага багацця краіны — зямлі — у інтарэсах грамадзян нашай краіны. Рэформа землекарыстання і прыватызацыя зямлі павінны выключыць усялякія сацыяльныя канфлікты.

***Рыгор Кастусёў***

## У шклоўскай калоніі № 17 з’явілася больш месцаў для ўтрымання асуджаных



Перапрафіляваны ў жылое памяшканне новы двухпавярховы будынак, дзе раней месцілась швейная вытворчасць.

Вытворчы цэх перапрафіляваны ў жылыя памяшканні ў сціслыя тэрміны, паведамляе шклоўская раённая газета “Ударны фронт”. Дзякуючы такой рэканструкцыі сто сорак зняволеных будуць размешчаны ў новым будынку. Плануецца, што там будуць непасрэдна пражываць асуджаныя, якія працуюць у сталовай, лазнева-пральным камбінаце і пекарні шклоўскай выпраўленчай калоніі № 17.

У шклоўскай калоніі № 17 адбывалі пакаранне шэраг беларускіх палітвязняў. Умовы ўтрымання ў гэтай установе лічацца вельмі жорсткімі.

***Барыс Вырвіч***

# Литовские бизнесмены пристроили бывшего могилевского мэра



*Виктор Шориков*

Бывшие чиновники могилевской городской вертикали нашли себе литовских работодателей. Экс-мэр Виктор Шориков, по информации «Ежедневника», например, занял должность одного из заместителей директора в компании «ВМГ Индустри».

\Напомним, что Виктор Шориков возглавлял Могилев почти 8 лет. Осенью 2009 года он написал заявление об уходе по собственному желанию. Некоторое время Шориков проработал в качестве главы управления Фонда социальной защиты Могилевской области. Но его опыт и связи, похоже, оказались к месту, когда к Могилеву и белорусским лесам проявили интерес литовские инвесторы.

В последние годы своего правления Шориков пытался прослыть чуть ли не самым прогрессивным городским руководителем. При нем в Могилеве восстановили историческое здание городской ратуши, при нем же впервые руководитель такого уровня завел собственный блог. На собственной Интернет страничке Шориков делился своими соображениями по поводу благоустройства города и цитировал Мольера. Впрочем, начитанность Шорикову не помогла. Накануне своего 60-летия (на посту «мэра» Шориков находился что-то около восьми лет) любителя французской классики попросили освободить занимаемое кресло. Кстати говоря, сведущие могилевчане не исключали коррупционную составляющую деяний Шорикова. Несмотря на то, что опальный экс-градоначальник некогда был среди основателей ОГП вместе с Василем Шлындиковым, искать подводные политические камни не следует. В деловых кругах могилевского начальника прозвали обидной, но точной кличкой «штука». Потом за начальником закрепилось другое прозвище: «две штуки».

«ВМГ Индустри» — это крупный проект, который реализуют в рамках СЭЗ «Могилев» совладельцы литовского деревообрабатывающего холдинга Vakaru Medienos Grupe Сигитас Паулаускас и Викторас Адомайтис. В начале 2011 года они подписали с могилевскими властями инвестиционный договор о создании вертикально интегрированного деревообрабатывающего комплекса с объемом инвестиций 64,3 млн евро. Кроме собственных средств, VMG привлекает в качестве соинвесторов шведские компании — IKEA, Euler Hermes Bank и Swedfund. Заинтересованность в финансировании проекта выразил Европейский банк реконструкции и развития.

Планируется на эти средства построить уже в 1 половине 2012 года заводы по выпуску панелей ДСП, мебельных деталей для плющенного шпона и производство корпусной мебели.

Кстати говоря, люди из команды Шорикова, покинувшие мэрию вскоре после его ухода, будут работать и в другом проекте литовского бизнеса в могилевской деревообработке. Концерн SBA создал дочернюю компанию "Мебелаин", которая займется на территории той же СЭЗ "Могилев" производством мебели из полуфабрикатов "ВМГ Индустри". Мебель предназначена в том числе для нужд всемирно известной шведской компании IKEA. Объем инвестиций в этот проект оценивается в еще около 12, 65 млн евро.

**Краткая справка**

Vakaru Medienos Grupe осн. в 2002 г.

Крупная деревообрабатывающая компания с мощностями в Клайпеде, Казлу Руде (Литва) и в Украине. В группе 6 предприятий, занимающихся выпуском ламинированных ДСП, изделий из фанеры, дубовых заготовок и мебели из плиты и массива.

Основной владелец – Сигитас Паулаускас (90%).

Концерн SBA осн. в 1990 г.

# Партыя БНФ пачала падрыхтоўку да выбараў з усходу



Напачатку лютага ў гарадскім пасёлку Хоцімск Магілёўскай вобласці адбылася сустрэча кіраўніцтва партыі БНФ з мясцовымі актывістамі.

Падчас сустрэчы кіраўнік партыі БНФ Аляксей Янукевіч і яго намеснік Алесь Стральцоў распавялі аб стратэгіі партыі ў межах выбарчай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў. Было адназначна пацверджана, што партыя БНФ будзе вылучаць кандыдатаў у дэпутаты на маючых адбыцца выбарах. У межах падрыхтоўкі да выбарчай кампаніі будзе ажыццяўляцца навучанне членаў каманд верагодных кандыдатаў у дэпутаты.

Як паведаміў старшыня Хоцімскай раённай арганізацыі партыі БНФ Валерый Каранкевіч, у сустрэчы прыняло ўдзел каля трыццаці мясцовых актывістаў.

"Нягледзячы на моцны мароз, сабралася шмат людзей. Нашыя мясцовыя актывісты задавалі шмат пытанняў прадстаўнікам партыйнага кіраўніцтва, цікавіліся палітычнай сітуацыяй. Вельмі карысным было і навучанне, якое адбылося ў межах падрыхтоўкі да выбарчай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў. Наогул, на маю асабістую думку, неабходна, каб такія сустрэчы адбываліся як мага часцей", – выказаў сваё меркаванне Валерый Каранкевіч.

Прадстаўнікі дэмакратычных партый і арганізацый пакуль не дасягнулі адзінай пазіцыі наконт удзелу ў так званых "выбарах" у Палату прадстаўнікоў.

*Барыс Вырвіч*



*Фінансы*

# Богданкевич: К концу года курс доллара будет примерно Br10 тысяч



*Станислав Богданкевич*

Недоверие к белорусскому рублю никуда не исчезло, потому что инфляция не прекращается, а продолжает расти. Кроме того, ожидания роста цен значительны: население понимает, что увеличение рублевой денежной массы, связанное с повышением зарплат, пенсий, пособий, неизбежно приведет к новому росту цен. Такое мнение корреспонденту сайта "Товарищ.online" высказал экс-глава Национального банка Беларуси, профессор Станислав Богданкевич.

Сегодня главный банк страны опубликовал Сведения об операциях физических лиц по покупке-продаже иностранной валюты на внутреннем валютном рынке. По его данным, за первый месяц года банки приобрели у граждан валюты на 480,5 миллиона долларов (в эквиваленте), а продали на 279,5 миллиона долларов (в эквиваленте).

"Я думаю, что это говорит о том, что населению не хватает денег для покупки товаров, для поддержания своего уровня жизни. Поэтому оно начинает тратить те сбережения, которые были накоплены ранее", - сказал Станислав Богданкевич.

По его мнению, на самом деле в прошлом году цены выросли не в 2 раза, а в 2,5-3 раза. Ведь в "корзину" обычно включают социальные товары, цены на которые наиболее приемлемые для бедных слоев населения, а не качественные товары.

Однако он убежден, что в ближайшее время тенденция заметно изменится. "Если моя оценка о причинах превышения продажи над покупкой валюты правильная, то тенденция обязательно поменяется, - говорит эксперт. - Белорусских денег станет больше, и у населения не будет необходимости продавать валюту".

Экс-глава Нацбанка утверждает, что недоверие к национальной валюте "никуда не исчезло, потому что инфляция не прекращается, а продолжает расти". "Кроме того, ожидания роста цен значительны: население довольно образованное, и оно понимает, что увеличение рублевой денежной массы, связанное с повышением зарплат, пенсий, пособий, неизбежно приведет к новому росту цен", - подчеркнул Станислав Богданкевич.

Оценивая мнение экономиста Ярослава Романчука, высказанное сайту "Товарищ.online", о том, что уже в апреле курс доллара резко поползет вверх, экономист заметил: "Трудно говорить относительно месяца-двух. Я не думаю, что такой обвал начнется уже в апреле, он будет протекать постепенно, в течение всего года. Я давал когда-то оценку, что к концу 2012 года в лучшем случае курс белорусского рубля будет на уровне, имея в виду небольшой "плюс-минус", 10 тысяч рублей. Я и сейчас придерживаюсь этой позиции".

***Товарищ.online***

## На сярэдні заробак у 543 долары хоча выйсці кіраўнік Магілёва

Паводле Станіслава Барадаўкі, такія заробкі магілёўцы мусяць атрымліваць пад канец гэтага года.

Дарэчы, за студзень сярэдні заробак у Магілёве склаў 2,9 мільёна рублёў, або каля 340 доляраў, піша газета "Веснік Магілёва". За кошт чаго заробкі вырастуць да абяцанага ўзроўню, Станіслаў Барадаўка не паведаміў.

***"Еўрарадыё"***

## Только факты

Согласно данным Белстата, в Беларуси около 170 тыс. чиновников всех уровней, что составляет примерно 3,5% занятых.

# Макей признался в истинных причинах обвала белорусского рубля




Глава Администрации президента Беларуси признался в истинных причинах обвала белорусского рубля. По его словам, все произошло из-за эмиссионного повышения заработных плат к выборам президента.

Напомним, что ранее власти утверждали, что обвал произошел по ряду независимых от них причин. В числе последних называли и спекуляции на валютном рынке с создание искусственного ажиотажа на валюту, и мировой кризис и даже массовую закупку белорусами автомобилей накануне повышения таможенных пошлин.

Свое сенсационное признание об истинных причинах обвала белорусского рубля Администрации президента Владимир Макей сделал во время посещения ОАО "Барановичхлебопродукт" и общения с работниками предприятия.

"Государство старается поддержать людей, но это не значит, что на выплату зарплат будут вбрасываться эмиссионные деньги. Мы уже научены горьким опытом. - Среди ряда других причин эмиссионные деньги в том числе были причиной того, что у нас произошла девальвация рубля и скачок цен. Больше такого не будет", — заявил В.Макей. И хоть он прямо не сказал, куда пошли эмиссионные деньги, но ни для кого не секрет, что именно накануне президентских выборов 2010 года в Беларуси произошло существенное повышение заработных плат. У людей на руках оказались огромные суммы, которые просто некуда было девать, кроме как покупать на них валюту.

По словам Владимира Макея больше такого не повторится, а "проблема зарплат и цен будет помаленьку уходить".

***(Начало. Окон. на стр. 5)***

## Макей признался в истинных причинах обвала белорусского рубля

*(Окончание. Нач. на стр. 4)*

“Не надо только жаловаться: помогите тем, этим, дайте скидку”, - добавил Владимир Макей. Он рассказал, что сейчас президенту поступает очень много просьб о рассрочке платежей, различных льготах. “Глава государства категорически запретил идти на подобного рода шаги. Деньги должны быть заработаны”, - подчеркнул Владимир Макей. Он отметил, что как бы ни было сложно, государство не бросает людей.

Как утверждает В.Макей, “экономика в этом году выйдет на нормальные темпы роста, причем в соответствии со всеми рыночными законами”.

“Не будет никакого искусственного эмиссионного накачивания экономики деньгами”, - заверил рабочих глава Администрации президента.

*Ежедневник*

## Ці ёсць у чалавека сумленне?

Крымінальная справа супраць супрацоўніцы аддзялення “Белаграпромбанка” ў Бялынічах, якая скрала грошы ў сіраты, узбуджана 13 лютага

Упраўленне следчага камітэта па Магілёўскай вобласці 13 лютага ўзбудзіла крымінальную справу па арт.211. ч. 1 Крымінальнага кодэкса (прысваенне або растрата) супраць непрацуючай несудзімай жыхаркі Бялыніч 1973 года нараджэння, паведамляе інтэрнэт-сайт УУС Магілёўскага аблвыканкама.

Гэта жанчына, працуючы спецыялістам па аперацыйна-касавай рабоце разлікова-касавага цэнтра Бялыніцкага філіяла “Белаграпромбанка” і з’яўляючыся матэрыяльна адказнай асобай, выкрала шляхам прысваення грашовыя сродкі з унёску навучэнкі Бялыніцкай школы-інтэрната для дзяцей-сірот, на суму 3 098 000 рублёў. Былая касірша затрымана згодна артыкула 108 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

*Багдан Іваноў*

# Магілёўскія чыноўнікі паказалі, наколькі ў Беларусі адсталая вытворчасць




*Барыс Бухель*

Пасля рэканструкцыі магілёўскага хлебзавода №4 па заходніх тэхналогіях прадукцыйнасць працы павялічылася ў 15 разоў. Гэта відавочна сведчыць пра тое, што згубіла краіна за 17 гадоў кіравання Аляксандра Лукашэнкі і адмовы ад еўрапейскага шляху развіцця.

Да рэканструкцыі прадпрыемства выпускала 20 тон вырабаў хлеба-булачнай прадукцыі ў месяц, а пасля мадэрнізацыі вытворчасці яе магутнасці павялічыліся да 300 тон. Пры гэтым асартымент вырас да 100 відаў: пячэнне, тарты, вафлі, разнастайныя гатункі хлеба.

Паводле афіцыйнай інфармацыі ў вытворчасць было інвеставана каля 2,5 мільёнаў еўра, было закуплена новае абсталяванне і створана ўсяго 50 дадатковых працоўных месцаў.

Праваабаронца і адзін з прафсаюзных дзеячоў незалежнага прафсаюза Радыёэлектроннай прамысловасці Барыс Бухель адзначае, што новымі лічбамі ўлада яскрава паказала глыбіню адсталасці беларускай эканомікі ад сусветных стандартаў.

- Чыноўнікі нават не зразумелі, што наглядна выявілі ступень адсталасці эканомікі і кошт адмовы ад эканамічных рэформ, заходніх інвестыцый і еўрапейскага вектару развіцця, а тым самым яны прадэманстравалі, якія магчымасці не рэалізавала Беларусь за часы сваёй незалежнасці.

- Пасля істотнага павелічэння прадукцыйнасці працы рабочыя прадпрыемства маюць законныя падставы для таго, каб патрабаваць павелічэння заробку ў разы, а адміністрацыя завода мае магчымасці выканаць іх абаснаваныя патрабаванні. Галоўнае, каб тэмпы росту зарплаты не перабольшылі тэмпы росту прадукцыйнасці працы. Калі гэтага не адбудзецца, то гэта будзе сведчыць пра скваблнасці і глупасць кіраўніцтва хлебазавода, якое не клапоціцца пра павелічэнне дабрабыту сваіх работнікаў і далейшы рост прадукцыйнасці працы.

*Вітольд Няўрыда, “Наш Магілёў”*

## Лукашенко пойдет на 6-й срок с обещанием зарплаты в $1300



*Александр Лукашенко*

К неоспоримому и не вызывающему никакого сомнения переизбранию А.Лукашенко на 6-й срок власти пообещают электорату повысить среднюю месячную зарплату до $1300. Такой показатель заложен в концепцию развития промышленного комплекса до 2020 года.

“До 2020 года предусматривается достижение производительности труда в промышленности на уровне $34-36 тыс. на одного занятого. Будет создано 400 тыс. высокопроизводительных рабочих мест. Рост валовой добавленной стоимости вырастет в 2,3-2,4 раза. Повышение зарплаты планируется до уровня $1 300”, - озвучил отдельные параметры документа замминистра экономики Анатолий Филонов, которого цитируют госСМИ.

По его словам, реализация намеченных планов потребует $90 млрд.

Филонов также сообщил, что концепция в ближайшее время будет направлена на утверждение А.Лукашенко. На основе документа к середине марта должна быть разработана госпрограмма.

“Конкретные сроки, точные объемы финансирования, проекты программы будут конкретизированы в самое ближайшее время”, - сказал замминистра.

*АФН*

*Грамадства*

# Выходзьце з сетак!



*Андрэй Юркоў*

У Горках ад падрыхтоўкі да “Дажынак” – не прайсці, не праехаць. Паўсюдна будоўля і рамонт. Але ці ўсе нязручнасці аб’ектыўныя і неабходныя?

Дзякуй Богу, мост ля “Парнаса” адчынілі. А то праехаць ці прайсці па Горках была задача не з лёгкіх. Многія абураліся: пра што толькі думалі чыноўнікі, пакідаючы нас на такія пакуты?

Адзіная вуліца, якая злучае падзелены надвое рэчкай Капылянкай горад, каля гарадской лазні разбіта ўшчэнт.

Даехаць ад аўтавакзала да Бруцара ўранні і ўвечары – было вельмі цяжка.

А калі гэту адзіную артэрыю пакрыў лёд, а потым і снег прысыпаў, успомніліся маскоўскія дарожныя пробкі. На Мсцілаўцы і 20, і 30 хвілін можна было прастаяць у чарадзе машын.

Не было б бяды, каб можна было праехаць праз вучгас на акадэмію. Але ж там грэблю па Верхнім возеры чамусьці спатрэбілася разабраць акурат у час рамонту моста ў цэнтры.

Да гэтых нязручнасцяў дадалася масавая высечка дрэваў. Каля 1000 штук пад сякеру пойдзе.

А яшчэ знішчэнне старых будынкаў, а некаторыя з іх – частка нашай гісторыі.

Не дзіва, што многія жыхары ад гэтага гармідару адчуваюць не радасць, а крыўду і неразуменне.

Бо любы чалавек вельмі балюча пераносіць розныя пераўтварэнні. Яшчэ цяжэй, калі яны кранаюць родны кут, звыклы сацыяльна-культурны асяродак.

Менавіта таму ў цывілізаваных краінах абавязкова ўсе значныя пераўтварэнні спачатку ўзгадняюць з грамадствам.

Ну, сабраліся, напрыклад, чыноўнікі высекчы алею. Дык перад гэтым яны мусяць абавязкова арганізаваць сустрэчу з людзьмі, што жывуць у бліжэйшых дамах. Няхай выкажуцца. Выслухайце кожнага, паспрабуйце зразумець, які боль адчуваюць людзі. Хутчэй за ўсё ў такой гутарцы будзе знойдзена найлепшае рашэнне, якое ўсіх задаволіць.

САБРАЛІСЯ РАЗАБРАЦЬ МАСТЫ? ПАГУТАРЦЕ СПАЧАТКУ З КІРОЎЦАМІ АЎТОБУСАЎ І МАРШРУТАК, З ВАДЗІЦЕЛЯМІ. ДАВЕДАЙЦЕСЯ, ЯК ЯНЫ БУДУЦЬ ДАБІРАЦЦА НА ПРАЦу, у бальніцу, дамоў.

Разам прадумайце маршрут. Усёткі ўлада для народу павінна працаваць і пра народ думаць.

Сустрэчы з людзьмі, безумоўна, няпростая справа. Але такую працу трэба праводзіць.

Не хапае людзей? А дзе некалькі дзясяткаў дэпутатаў райсавету? Што, яны патрэбны, толькі каб два-тры разы на год падняць рукі ўгору?

Няхай бяруць партфелі і ідуць з народам працаваць. Па вечарах ды на выхадных. А інакш няма чаго тыя саветы выбіраць. Толькі грошы на вецер.

Але ж і самі людзі не павінны ў шапку спаць. На кухнях, у грамадскім транспарце, на вуліцы, а цяпер ужо і ў Інтэрнэце – горычы ды стогну хапае.

Але калі прапануеш рабіць канкрэтныя, дазволеныя законам справы для вырашэння пэўных мясцовых праблем (звяртацца да дэпутатаў, пісаць адкрытыя лісты, збіраць подпісы, добраўпарадкаваць помнік), імпэт імгненна згасае.

Выходзіць, самі не патрабуем, цярпім.

Паважаныя землякі. Давайце рабіць наша жыццё больш прыемным разам.

Безумоўна, можна зацята адстойваць грамадскія інтарэсы ў кухонных ці застольных спрэчках.

Пісаць яскравыя каментарыі на сайтах і ў сацыяльных сетках. Гэта вельмі добры, але толькі першы крок.

Далей павінна стаць наша супольная праца. Існае заканадаўства дазваляе вымушаць чыноўнікаў працаваць на карысць грамадства, на патрэбы кожнага з нас. Таму, паважаныя землякі, давайце не хавацца за “нікамі” ў сецiве, не спрабаваць у адзіночку ламаць мур абыякавасці. Далучайцеся, прапаноўвайце свае ідэі, і справа пойдзе весялей.

***Андрэй Юркоў, Gorkl.info***

# Экономим, чтобы потом «фестивалить»



Фестиваль “Александрыя збірае сяброў” (агрогородок Александрия) расширит границы. Об этом сообщил во время встречи с Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Украине Валентином Величко председатель Могилевского облисполкома Петр Рудник.

По словам губернатора, праздник, который проходит в Шкловском районе на Купалье, по уровню организации и масштабам в перспективе может перешагнуть “Славянский базар” в Витебске. Фестиваль 2012 года значительно “вырастет” в плане географии участников и количества мероприятий. “Мы хотим собрать представителей со всех областей, лежащих вдоль Днепра”, — уточнил Петр Рудник. В основе задумки праздника – идея славянского братства Беларуси, России и Украины. “В прошлом году к нам уже приезжал коллектив из Смоленской области, — подчеркнул губернатор. — Места, где берет исток река. В планах — дойти до Черного моря”.

Как отметил глава Приднепровского края, “Александрыя збірае сяброў” из года в год набирает обороты и развивается. “Свидетельство тому, что мы двигаемся в правильном направлении, — хорошие отзывы зрителей, возрастающее количество завсегдатаев фестиваля”, — сказал Петр Рудник.

***По материалам region.mogilev.by***

# ТЕХНОЛОГИЯ ПРИПИСОК — КАК ЭТО ДЕЛАЕТСЯ




Представляем вниманию наших читателей выдержки из одного примечательного дела. Это уголовное дело по обвинению группы работников Климовичского района. Они занимались приписками в сельском хозяйстве, давали «нужные» результаты и, в конце концов, были разоблачены. Описываемые события произошли несколько лет назад, но назвать их устаревшими или потерявшими актуальность не представляется возможным. Во-первых, такие дела совсем не редкость и сегодня. Во-вторых, принципиально важно показать на примере отдельных исполнителей, почему и как они идут на свои преступные деяния. Цели и мотивы махинаторов районного масштаба вскрывают истинную цену успехов нынешней власти, показывают технологию достижения пресловутой стабильности.

## * ИЗ ПРИГОВОРА ПО УГОЛОВНОМУ ДЕЛУ *

«Н., являясь должностным лицом по признаку выполнения организационно-распорядительных обязанностей, из иной личной заинтересованности, противоречащей интересам службы, выразившейся в стремлении создать видимость благополучного положения в хозяйстве и избежать дисциплинарной ответственности за невыполнение прогнозных показателей, с целью искажения данных государственной статистической отчетности, используя свои служебные полномочия, умышленно вносил заведомо ложные сведения и записи в официальные документы — отчеты о состоянии животноводства (формы 24-сх), а именно: фиктивно завысил валовой надой молока и валовой привес крупно-рогатого скота, что повлекло за собой искажение данных государственной статистической отчетности.

На него, как на руководителя хозяйства, оказывалось давление из управления сельского хозяйства и продовольствия Климовичского райисполкома в связи с тем, что необходимо было выйти на прогнозные показатели по надоям молока и привесам скота. В случае невыполнения прогнозных показателей он был бы привлечен к дисциплинарной ответственности. Реальные надои и привесы были ниже прогнозных показателей. В связи с этим он дал указание бухгалтеру по животноводству С. поставить в форму 24-сх (отчет о состоянии животноводства) завышенные показатели по надоям и привесам скота. С. по его указанию заполнила эти формы 24-сх, однако подписывать их категорически отказалась, сказав, что данные сведения недостоверные и подписывать отчеты с такими сведениями она не будет. После этого он сам подписывал данные отчеты во всех графах и сдавал их в управление сельского хозяйства и продовольствия райисполкома, а затем данные отчеты направлялись в отдел статистики для включения сведений в государственную статистическую отчетность.

Свидетель С. показала, что…по указанию Н. в хозяйстве были произведены приписки надоя молока и привеса скота. То есть, Н. дал ей данные по надоям и привесам, чтобы она внесла их в форму 24-сх. Она увидела, что это фиктивные данные, то есть завышенные. Об этом сказала Н. и предупредила, что вносить эти ложные сведения в отчет не будет. На что Н. ответил, что данный отчет он будет подписывать сам и что он берет за это на себя ответственность. Тогда она внесла в форму 24-сх фиктивные данные по указанию Н., однако данные формы не подписывала, подписывал их единолично Н. Насколько ей известно, данные действия Н. совершил, чтобы не нарушить прогнозные показатели.

Свидетель К., работающая заведующей фермой, показала, что…Порядок отчетности по надоям молока при руководителе Н. сложился следующий. Директор Н. давал сведения о надоях молока диспетчеру Б., а последняя сообщала эти сведения по телефону в райисполком. Она у диспетчера увидела сведения по надоям, в которых показатели были сильно завышены. Пошла к директору Н. и сказала ему, что данные цифры по надоям нереальные. Н. сказал ей, что он директор и отвечает за эти сведения, что нужно выполнять прогнозные показатели, и что если она хочет работать, то должна поставить в отчет эти завышенные сведения.

Свидетель Б., работавшая диспетчером, показала, что…в её обязанности в основном входили передача данных по надоям молока в управление сельского хозяйства и продовольствия Климовичского райисполкома, данных по зерноуборке и другое. Данные по надоям ей предоставляли работники хозяйства, собиравшие молоко по фермам. С этими данными она приходила к Н. ежедневно. Ежедневно Н. давал ей указания передавать в райисполком завышенные данные по надоям молока, когда говорил эти данные устно, когда писал на бумаге. Также ежедневно по телефону она передавала эти завышенные данные по надоям в райисполком».

***ТИМУР НЕЗВАНОВ***

## Воруют всё

54-летний житель д. Таймоново Быховского района стал жертвой кражи: 37-летняя односельчанка похитила с его подворья пять кур.

Злоумышленница часто навещала односельчанина – помочь по хозяйству. Очередной визит женщины состоялся в необычное время: около полуночи она проникла в сарай и вынесла оттуда пять несушек.

Когда утром хозяин дома недосчитался домашних птиц, он сообщил о пропаже в милицию. Вскоре была установлена личность ночной гостьи. Вороватую односельчанку задержали, но хозяину удалось вернуть только тушки кур.

В отношении злоумышленницы Быховским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 2 УК Республики Беларусь – кража, которая предусматривает максимальную ответственность в виде лишения свободы на срок до 4 лет.

***mogilev.uvd.by***

# Ідэолагі патрабуюць эканоміць




Магілёўскія ідэолагі ў чарговы раз настойліва парэкамендавалі раёнкам пераходзіць на штотыднёвы выпуск. Нарэшце высветлілася, што гэта неабходна для выхаду на самаакупальнасць.

На адбыўшайся днямі калегіі ўпраўлення ідэалагічнай работы Магілёўскага аблвыканкама начальнік упраўлення Андрэй Кунцэвіч і намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Матусевіч зноў нагадалі рэдактарам раённых газет аб неабходнасці пераходу з двухразовага на штотыднёвы выпуск, паведамляе інтэрнэт-сайт Быхаўскай раённай газеты “Маяк Прыдняпроўя”. Нарэшце быў агучаны і сапраўдны чыннік неабходнасці такога пераходу – “трэба імкнуцца да росту самаакупальнасці”. Паказальна, што пачалі эканоміць сродкі нават “на свяшчэннай карове” – ідэалагічнай апрацоўцы простых людзей.

Сёння на Магілёўшчыне акупаемай з’яўляецца толькі адна раённая газета – “Асіповіцкі край”.

У якасці прыкладу для пераймання былі названыя хоцімскія і слаўгарадскія раёнкі, якія ўжо перайшлі на штотыднёвы выпуск. Аднак рэдактар “Маяка Прыдняпроўя” Мікола Леўчанка выказаў сваё скептычнае стаўленне да загаду ідэолагаў: “Першай адзін раз на тыдзень на 16-ці старонках яшчэ летась пачала выходзіць хоцімская раёнка, нядаўна яе прыкладу паследавала слаўгарадская. Ганна Мармузевіч, галоўны рэдактар хоцімскай газеты, потым у сваім выступленні казала аб сваіх новаўвядзеннях, але, ведаючы іх кадравыя праблемы, і тое, што да нядаўнега часу там нават кіраўнікі выдання часта мяняліся, мяне яе словы не пераканалі. Тут, як кажуць, спачатку сем разоў адмерай, а потым адзін раз адрэж”.

У мэтах эканоміі запланаваны і другія змены: “Рэгіянальныя СМІ чакаюць і рэарганізацыйныя змены. Ідэя пераўтварэнняў складаецца ў наступным: правесці зліццё рэдакцый двух выданняў - “Магілёўскіх ведамасцяў” і “Магілёўскай праўды”, заснавальнікам якіх з’яўляецца аблвыканкам, і на іх базе стварыць інфармацыйнае агенцтва “Магілёўскія ведамасці”. Акрамя выканання асноўнай задачы - збору і перадачы навін - агенцтва працягнула б выпуск указаных газет, але ўжо з пэўным мэтавым дзяленнем, без тэматычнага дублявання і з меншымі фінансавымі выдаткамі.

Абсалютная большасць знаёмых журналістаў, якія працуюць у раёнках, выказваюць сваё адмоўнае стаўленне да пераходу на штотыднёвы выпуск.

Нагадаем, што дэ-юрэ ўсе раённыя газеты з’яўляюцца самастойнымі суб’ектамі гаспадарання і маюць права вызначаць перыядычнасць выхаду самі. І аб якой аб’ектыўнасці і непрадузятасці рэгіянальнай прэсы на Магілёўшчыне можна казаць, калі ёй без усялякага сораму “кіруюць” ідэолагі…

***Віктар Баравікоў***

## “Народны кантроль” спадзяецца “закрыць” на выбарах 30-35% акругаў

Стартавала кампанія, якая будзе прыцягваць грамадзян да назірання і кантролю за будучымі выбарамі ў Палату прадстаўнікоў.

Ініцыятарамі “Народнага кантролю — за сумленныя выбары” выступілі Партыя БНФ, Беларуская партыя “Зялёныя” і рух “За Свабоду”. Вось што распавёў Еўрарадыё пра маштаб кампаніі намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў:

“У першую чаргу мы маем арыентавацца на тыя акругі, дзе будуць кандыдаты ад дэмакратычных партыяў і арганізацый. На гэтых акругах мы планавалі б закрыць усе ўчасткі. Па цяперашняй інфармацыі, дэмакратычныя кандыдаты могуць закрываць дзесьці 30-35% акругаў”.

Паводле слоў Лялькова, асноўная мэта кампаніі — прыцягненне якмага большай колькасці людзей (пажадана незаангажаваных у апазіцыйныя структуры) да працы ва ўчастковых камісіях і ў якасці назіральнікаў на выбарчых участках. Арганізатары мяркуюць, што гэта дапаможа разбурыць міф, што жыве ў значнай частцы грамадства — парушэнні на выбарах ёсць, але няма масавых фальсіфікацый.

***euroradio.fm***

# Бывший прокурор Минской области сидит в Шклове

Признанный виновным в коррупционных преступлениях бывший прокурор Минской области Михаил Снегирь отбывает наказание в нашем регионе - в колонии № 17 в Шклове.

Напомним, 7 мая 2010 года коллегия по уголовным делам Верховного суда Беларуси огласила приговор в отношении Михаила Снегиря и бывшего генерального директора ОАО «Забудова» Михаила Куделко. Суд признал Снегиря виновным в совершении преступлений, предусмотренных частью 3 статьи 430 (получение взятки), частью 3 статьи 424 (злоупотребление властью), частью 3 статьи 426 (превышение власти), частью 2 статьи 295 (хранение боеприпасов). По совокупности преступлений ему назначено наказание в виде семи лет лишения свободы в колонии усиленного режима с конфискацией всего имущества, с лишением права занимать должности на государственной службе в течение пяти лет и лишением чина государственного советника юстиции третьего класса.



***Михаил Снегирь***

*магілёўскі* **Выбар**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб., Бялыніцкі р-н, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 20.02.2011 г. у 09-00.